

нумары:

ГЭЙ „НІВА" НЕ ЛЯНІВА!



У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ



WOSKOWA LALECZKA


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (523) Год XI 6 САКАВІКА 1966 г. Цана 60 гр.


## НАД АНКЕТАЙ

Часам, пры той ці іншай аказіі, сярод актыву ўспыхае пытанне: якой павінна быць «Ніва»? Удзельнікі спрэчак, тыпова беларускія натуры, упарта даказваюць свае рацыі, нярэдка выдаючы іх за голас народа, і, як можа быць у падобнай сітуацыі, тахо дзяць да абсурдаў. Але не адбірайма іншым права на свае рацыі. Мы таксама не застрахаваны аб суб'ектыўнасці і, што тут скрываць, не раз у рэдакцыйных дыскусіях, ставячы пытанне «Якой павінна быць «Ніва», разыходзімся ў поглядах. Апошняя наша анкета мела ў нейкай ступені вырашыць спорныя праблемы: хто ж, як не чытач, мае тут рашаючае слова?

Анкета перасягнула ўсе нашы спадзяванні. Перш за ўсё, атрымалі мы вялікую колькасць адказаў: 242. Калі да гэтага далаць, што прыйшлі яны са 128 мясцовасцей, дык анкету можна лічыць даволі дакладным адлюстраваннем поглядаў на «Ніву» яе чытачоў.

Што ж, тады, думаюць аб «Ніве» нашы чытачы? Якой, на іх думку, павінна быць «Ніва»? І хто яны, нашы чытачы?

Прапаноў і парад атрымалі мы мноства. Калі б іх моцна абагульніць, атрымаўся б такі тэматычны мадэль: культура, гісторыя, гаспадарка, свет, разрыўка (тэмы не па чарговасці адказаў). Асабліва месца ў «Ніве» чытачы адводзяць культуры. Культуры ў шырокім разуменні, але не абстрактнай. Калі чытачы звяртаюць увагу на недахоп артыкулаў аб літаратуры, дык часта дадаюць — «беларускай». Калі патрабуюць пашырыць навуковыя ці тэхнічныя тэмы, дык звяртаюць увагу на патрэбу гэтых ведаў у жыцці. Гэта сама можна сказаць і аб гаспадарчых тэмах («Вучуся ў эспээры, патрабую ведаў аб сучаснай сельскай гаспадарцы»).

Наогул, нашы чытачы — народ практычны: патрабуюць ад нас тое, што прыдаецца ў жыцці. Але не толькі практычнасць прабіваецца ў іх выказваннях. Нашы чытачы і рамантыкі. Многім сняцца гераічныя подзвігі. Адсюль грэміяльнае патрабаванне пашырэння апавяданняў, аповесцей і ўспамінаў з апошняй сусветнай вайны. Многія хацелі б, каб апісаныя падзеі адбываліся на Беласточчыне («Так, як у «Пушчанскай адысеі»). Вялікае запатрабаванне ёсць на гістарычныя тэмы не толькі ў аповесцях. Шмат чытачоў хацела б больш ведаць пра мінулае сваёй зямлі, свайго роднага кута.

Легенды кружаць аб паэтычнасці беларусаў. Што яны сапраўды нештодзённыя лірыкі, сведчыць таксама наша анкета. Проста неймаверна: «давайце больш вершаў» (!) І сучаснасці. І (хай прабачаць крытыкі) Дзядзьку Левана.

Нашы чытачы прагныя ведаў аб сучасным свеце (найбольш нам за свет ад іх дасталася), але яны жывуць таксама праблемамі краіны, ваяводства, сваёй вёскі.

Нашы чытачы — людзі з пагодным характарам і адначасова з вострым языком: 189 чытачоў заявіла, што найбольш ахвотна чытаюць гумар і сатыру.

Урэшце нашы чытачы — маладыя людзі. Асноўны наш чытач да 40 год (звыш 40 год толькі 38 адказаў). І гэта найбольшы наш капітал, бо гэта перспектыва. Яна захвочвае і забавязвае.

Г. Валкавыцкі




### НАМ ПІШУЦЬ

Дарагая «Ніва», я цябе люблю за тое, што ты наш найлепшы памочнік у нашай штодзённай працы. Я чытаю цябе ўжо дзесяць год, ад першага нумара. Віншую цябе, дарагая «Ніва», з юбілеем. Жадаю табе шчасця, здароўя і многа год жыцця. І каб ты была ў кожнага гаспадара на стале. І каб цябе чыталі старыя і малыя ва ўсім свеце.

БАРЫС ЯКАВЮК
Дубіны, Гайнаўскі павет

*

«Ніва» мая залатая, многа ў маім жыцці было сябровак, але такой, як Ты, я яшчэ не мела. За дзесяць год Ты мяне ні разу не падвяла. Прыходзіш да мяне ў кожную пятніцу, якая б ні была пагода: мароз, снег, дождж, бура. Ты да мяне ідзеш, а я, як верная Твая сяброўка, працягваю сваю руку. Ты мне прыносіш усе навасці, раскажаш пра ўсіх родных і знаёмых. Пра маю родную вёску Паўлы і пра іншыя вёскі, якія мне вельмі блізкія. Я сабе не раз задавала пытанне: чаму я Цябе так люблю? А Ты ведаеш, чаму? Таму, што ты расказваеш мне ўсё на маёй роднай беларускай мове, на якой гаварылі мае бацькі, дзеды і прадзеды. Дзесяць год таму назад, калі я чытала Твой першы нумар, я з радасці заплакала. Я адчула нешта вельмі блізкае майму сэрцу. Мне ўспомнілася ўсё, і ўсё мінулае.

За гэтыя дзесяць год Ты мне многа ўсяго дала, расказала. За гэта я Табе ў Твой дзень юбілейны складаю вялікую ўдзячнасць. Ад усяго сэрца. Шчыра, шчыра дзякую.

НАДЗЯ КАСАБУК
Беласток

*

«Ніва», мая «Ніва», дзесяць год чытаем Цябе і ўсе нашы людзі вельмі рады, што знайшліся хлопцы і нас не забываюць, дзесяць год хлапочуць, рук не пакладаюць, каб наша моладзь сваю мову ведала. Тым, што так слічна пішуць, доўгіх год здароўя, каб больш пісалі пра нашу вялікую радзіму.

АЛЯКСАНДР ШВЕД
Новае Беразова

(Працяг на стар. 2)




Прэзідыум з'езда. Выступае сакратар нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП Уладзіслаў Скшыпчак.

# V З'ЕЗД БГКТ

Беласток. Субота, 26 лютага г. г. Тут пачаў сваю працу 5-ты юбілейны з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. 10 год таму назад тут жа, у Беластоку, сабраліся на першы арганізацыйны з'езд прадстаўнікі беларускага насельніцтва. Тады былі толькі тэарэтычныя канцэпцыі працы Таварыства. Практычна выпрацоўваліся яны на кожным чарговым з'ездзе, а таксама на паасобных пленумах ГП БГКТ. І вось з'езд 10-годдзя падсумаваў гэты перыяд, паказаў на дасягненні і недахопы. Аб гэтым і гаварыў даклад Галоўнага праўлення БГКТ, які прачытаў на з'ездзе старшыня ГП БГКТ рэд. Міхась Хмялеўскі (шырокія вытрымкі з даклада «Ніва» ўжо друкавала).

З'езд адкрывае Міхась Хмялеўскі, які ў цёплых словах вітае дэлегатаў і запрошаных гасцей: Уладзіслава Скшыпчака — сакратара нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП, Зыгмунта Арлоўскага — дырэктара дэпартамента Міністэрства унутраных спраў, Яна Рызнара — пасла ў Сейм, сакратара Ваяводскага камітэта ЗСЛь, Валентага Авера — кіраўніка аддзела прапаганды ВК ПАРП, Антона Рошку — кіраўніка УСВ ВРН, Станіслава Романа — віцэкуратара Беластоцкай кураторыі Канстанціна Лашчука — старшыню ГП Украінскага ГКТ, Яўгенія Пятрашкевіча — сакратара Літоўскага ГКТ і іншых.

З'езд вялі: Піліп Кізевіч, Аляксандр Баршчэўскі, Вінцук Склубоўскі і Мікалай Самоцік.

Пасля даклада справаздачу Галоўнай рэвізійнай камісіі злажыў сакратар яе Аляксандр Кунах.

(Працяг на стар. 2)



Дэлегаты на V з'езд БГКТ у зале пасяджэнняў.

З НАГОДЫ МІЖНАРОДНАГА ЖАНОЧАГА ДНЯ ЎСІМ ЖАНЧЫНАМ ШЛЕМ САМЫЯ САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ І ПАЖАДАННІ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ І ШЧАСЦЯ Ў АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.

ГП БГКТ і «Ніва»

БЕЛАВЕЖА
орган літаратурна-мастацкага
АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 87

Віктар Швед

### КАРМУШКІ

Халадэча. Мёрзнуць птушкі
Ля вясковых хат.
Дзеці прынеслі кармушкі,
Сыпнулі зярнят.

Ешце птушкі — весялушкі
Шчыра просім вас.
Песняй звонкаю пяюшкі
Услаўляйце час.



### КОТ АБЖОРА

Да сала ў каморы
Дахрапаўся коцік.
Ляжыць цяпер хворы,
Уздуўся жывоцік.

Прыйшоў за хвіліну
Пан доктар кашэчы.
«Ты хворы, мой сыну?
Дык трэба палечыць!»

«Баліць, кажаш, бруха?
Зрабіўся ты хворы?
Парады паслухай:
Не будзь больш абжорай!»



## НЯБОЖЧЫК

Гаўрыла памёр раніцай, узімку. Ніхто не чуў, як гэта сталася.

Малання, жонка ягоная, гэтай начы бачыла сон. Быццам Гаўрыла бег за ёй, трымаючы раменны біч у руцэ... Уцякала ў страху вялікім ад яго, крычучы — «Людзі!!! Ратунку!!!»

Убачыла перад сабою глыбокую раку. Гаўрыла зараз ударыць бічам, або кулаком. Малання кідаецца ў раку. За ёю ён кідаецца і... трапляе ў вір... знікае пад вадой. Малання адна. Шкадуе Гаўрылы. Хай бы дагнаў і адлупцаваў яе плечы, але каб жыў... Закрычала ў страху і жалю: — «Людзі!!! на помач... на ратунак!!!»

Прабудзілася залітая потам. Яна ў сваёй хаце... на сваім ложку. То быў сон. Малання павесялела. І Гаўрыла не ўтапіўся, бо спіць воддалі, на сваім ложку. Не чуваць ані сапу, ані храпу... Каб упэўніцца, што ён ёсць у хаце, устала і падыйшла да ягонага ложка.

Рукой дакранулася падушкі, пасля да валасоў на галаве... дакранулася да галавы — была халодная.

— Памёр!!! — закрычала. — Людзі!!! Ратунку!!! Гаўрыла памёр!!! — схапілася рукамі за свае, яшчэ нячэсаныя, валасы і загаласіла.

Гадовы сынок у калысцы, збуджаны яе крыкамі, заплакаў. Певень з курамі запёртымі пад прыпечкам справілі гвалт і кудахтанне. У хляве прабудзіліся свінні — неспакойна рухкалі... У будцы завыў сабака.

Малання ўскінула на сябе кажух, на галаву хустку, на ногі валёнкі і пабегла зваць суседзяў.

Зараз прышлі на помач: Хвёдар з сынам і жонкай, Мацей — бабыль, што умеў мыць нябожчыкаў і цэлымі начамі з ружанцам у руцэ сядзець пры іх, ды ціха маліцца, або голасно пяяць хаўтурныя псалмы. Прыйшоў і старэнькі «мудры» Міхал, што быў знаёмы з «хвершалскімі навукамі».

Малання чыркнула аб карабок сярнічку і запаліла лямпу. Відна стала ў хаце.

Нябожчык ляжаў пакаселіўшы ўгару вочы, як бы нешта страшнае ўбачыў. Ляпа шырока ашчэраная, з белымі зубамі, застыгла ў страшнай несамавітай пазіцыі.

«Мудры» Міхал падыйшоў і ўмелым рухам пальцаў сваёй рукі зачыніў павекі нябожчыка, а адвіслую скіўцу прывязаў на сваё месца істужкай, каб не адвісала і не страшыла.

Малання ўжо паставіла вялізны кацёл з вадою ў печку, каб сагрэць. Выняла са скрынкі чыстыя нагавіцы і кашулю, а таксама чорныя пінжак і штаны, якія Гаўрыла за жыцця накладаў на сябе толькі на Каляды, на Вялікдзень і на Тройцу.

Па нейкім часе нябожчык памыты, апрануты, прычэсаны, быў паложаны ляжаць дагары на доўгім зэдлю (пакуль сталяр Аляксей з сынам на дварэ рабілі дамавіну).

Гаўрыла ляжаў у кут галавою, дзе глядзелі на яго з абразоў угоднікі божыі-святы Мікалай Цудатворца.

У галавах нябожчыка паставілі запаленыя дзве грамнічныя свечкі. Мацей — бабыль усеўся тут жа і ўжо шаптаў пабожна пацеры.

Унеслі, нарэшце, дамавіну збітую з белых дошак. Нутро абклалі паперамі, падушку змайстравалі не з мяккага пер'я, як меў за жыцця, а з цвёрдых астружын дрэва.

У такое вось «вечнае ложка» паклалі Гаўрылу. Ляжаў ён, хоць за жыцця не любіў ляжаць.

Раненька, бывала, усцюпіцца з пасцелі, ускіне паўшубак на сябе, махнатую шапку на галаву, боты на ногі і аж да снедання таўчэцца каля жывёлы ў хляве, каля гаспадаркі, і ў таку, і ў свіране, і ў восеці. Быў рупны да працы.

Малання аднак не мела ад яго вялікай пацехі — чапляўся да кожнае кроплі вады ці стравы, брызнутай на стол, а не сцёртай, да кожнай звісаючай са столі павуцінкі. Чапляўся, што Малання курэй не шчупала ніколі (казала, што і без гэтае цэрагелі яйцо ў належным часе спадзе на салому).

Гаўрыла часта ругаў, а нават біў раменным кнутом Маланню па голым азадку, калі знаходзіў у сваёй місцы, пастаўленай на стол з гарачай стравай, парамі абнімаючыхся мух.

— Чаму мух гадуеш у хаце! — крычаў як на служанку. — Адчыніла б дзверы ды ручніком іх з хаты...!

— І ты не зломак! — казала Малання скрабучы на бліны бульбу. — Мне яны не шкодзяць. Гані сам, калі табе шкодзяць.

Гаўрыла падбягаў і мясіў яе плечы, б'ючы цвёрдым кулаком. Цяпер ён ужо не кінецца. Ляжыць, а па твару яго лазяць асалавелыя ад зімы мухі. Не можа Гаўрыла цяпер нават мухі сплашыць са свайго твару. Малання папраўляла кнот свечкі і махнула рукой над самым тварам нябожчыка, каб адагнаць мух.

Дзе там! Мухі зрабілі ў паветры жартаблівы адлёт, і зноў вярнуліся смактаць кроў.

Малання ўспомніла, як калісьці, перад жывым Гаўрылам махнула кулаком перад носам у час спрэчкі, дык так балюча стоўк яе цела кулакамі, што з два тыдні насіла сінякі.

Цяпер, вось і нічога, спакарнеў. Ляжыць, рукі злажыўшы. Над ім свечкі гараць, несамавіта пускаючы густы куродым на хату. Пры водблеску свеч здалося Мацею-бабылю, як святы ўгоднік Мікалай, трымаючы ў левай руцэ евангелле, гразіў рукой правай нябожчыку як бы кажучы: — Ты пераступіў запавет Божы, які кажа — любі бліжняга. — Ты жонцы сваёй быў ворагам, замест быць прыяцелем. — Ты прагуляў шмат грошай Галдыкевічу ў «дваццаць адно», а яшчэ больш прапіў... а што ты жонцы дабрага аставіў?

Здалося пабожнаму Мацею, што святы Мікалай у руцэ трымае не евангелле, а быццам Звод Законаў... і што св. угоднік пальцамі сваімі, складзенымі як бы на прысягу, гразіў не толькі нябожчыку і жывым, што мітусіліся па хаце, але і цэлай вёсцы.

А нябожчык, гэткі заядлы і кепскі за жыцця, гэткі вораг жонкі, поўны адвагі, каб без дай прычыны кінуцца з кулаком на бабу... гэткі завадыяка, — ляжыць пакорна рукі злажыўшы, страціўшы Божую ласку — жыццё дарагое, дадзенае для агульнае радасці і ўспамажэння.

Мацей так думаў і, глыбока гэткімі думкамі стрывожаны, заспяваў: — Успакой Госпадзі душу усопшага раба Тваяго.

*

У хаце было ціха. Свечкі толькі час ад часу моцна мігалі і давалі трэск, як бы да агню датыкалася чыясьці таемная рука.

**Антось з Лепля**

АЛЕСЬ БАРСКІ

## „Карэнні кахання"

(працяг цыкла)

10

Хавайся за дрэвамі ў пушчы
я буду лавіць Цябе у лесе
як птушка шукае і ловіць
першы вясенні промень.
знайду я Цябе у крушыне
а можа у зялёных малінах
або пад залётнай рабінай
схаплю, панясу нібы сонца
трапяткое
пахучае
цёплае
у вонныя травы паляны
якая ляжыць як узлонне
чакае прыліву кахання
прыкрытая купалам неба
нырнем там у шчасця бяздонне.

11.

усё пакажы што маеш
не хавай у фалдах устыду
найдрабнейшай сваёй часцінкі
прыклад вазьмі з прыроды
якая вабіць адвечным
распрананнем
і апрананнем
прыгажосцю сваёй падзяліся
распраніся

12.

каханне мы стварылі самі
без указанняў і без дырэктываў
з яго мы выганялі дзікаватасць
пыхлівасць вады і норавы
недасканаласць і заганы
таму усё ў ім наша ўласнасць
таму мы дзякуем натуры
бо надзяліла нас інстынктам
які прывёў нас у каханне.

13.

бывала я Табе не верыў
і думаў што мяне прагнала
Ты з свайго сэрца назаўсёды
але зірнуў аднойчы ў вочы
у іх убачыў свае здымкі
што Ты схавала ад прахожых
і перастаў я сумнявацца
пераканаўся на заўсёды
што ў вачах партрэт мой носіш

14.

добра памятаю тую ноч
калі сказала Ты
нас ужо трое а не двое
і узяла маю руку
і палажыла на жывот
і я пачуў ціхуткі стукат
сын ці дачка
мы не умелі адказаць
ды пэўным сталася адно
што наша шчасце падапрэ
малая трэцяя калона.

15.

у глыбіні Тваіх вачэй зялёных
адбітак ёсць маёй трывогі
куды у даль яны так гоняць
па невядомых мне дарогах
ці там ёсць нехта Табе блізкі
а мне чужы а мне варожы
я бачу незычлівасць бліскаў
у зрэнках Тваіх воч прыгожых
скажы Ты мне што я мылюся
што сэрца злы дух мне наведаў
да ног Тваіх я прытулюся
і стану вечным Тваім следам

16.

ад цяпла Тваіх далоняў
расцвітаюць ружы і цюльпаны
даспяваюць каласы пшаніцы
і дзіця смяяцца пачынае
ад цяпла ў нас сэрцы падабрэлі
заняліся полымем кахання
да сябе
і да людзей
і да прыроды
ходзім мы ў ружовых акулярах
і вокал бачым толькі шчасце.



МІКАЛАЙ ГАЙДУК

## ВЯРГІННІ

Наследванне М. Багдановічу

**Вяргінні ў асенняй зуднай стыні**
**самотна хіляць голаў за акном,**
**і хоць у імглістай шэрай плыні**
**час гэты ноччу быць здаецца, а не днём**
**яны смяюцца мне ўсмешкай мілай,**
**зіяюць, стракацяць праменістым кустом;**
**сваёю сонечнай, ірдзістай сілай**
**бунтуюць свет, шасцяць агнём,**
**вяргінні!**
**Хаця зямлю ўсю затапіла,**
**здушыла, закавала у палон**
**халоднай склізі павуцінне,**
**прарочаць смела за акном**
**вяргінні**
**прыход вясенніх ясных дзён.**

## ЛЮБОЎ

**На загоне тваім**
**белы камень легенды**
**і пошчак.**
**Дзяўчына - каліна**
**капае пад ім**
**корань дзіў, корань шчасця**
**і ў млечным струмені надзей**
**палошча,**
**брыдзе на расстаі,**
**на хвалю сінюю дунаю**
**пускае...**
**і ў роспачы плача.**
**Бо на загоне тваім**
**толькі камень легенды**
**і пошчак.**

# КАНДРАТ КРАПІВА



Уласная бібліятэка пісьменніка.

Вялікі жыццёвы і творчы шлях прайшоў вядомы беларускі сатырык, байкапісец і драматург Кандрат Крапіва. 5 сакавіка 1966 года яму канчаецца 70 гадоў.

Упершыню яго вершы паявіліся ў газеце «Савецкая Беларусь» у снежні 1922 года.

Тады К. Крапіва толькі пачынаў літаратурную дзейнасць. і толькі падпісчыкі газеты. дзе ён друкаваўся. былі знаёмы з яго першымі паэтычнымі вопытамі. А і сам К. Крапіва наўрад ці мог тады падумаць што гумарыстычныя вершы. фельетоны і байкі. якія ён, па свайму прызнанню, пісаў «так. як гаварыў дома, у вёсцы», спадабаюцца шырокай чытальніцкай масе. што яму суджана разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам стацца адным з зачынальнікаў беларускай літаратуры.

Прайшло зусім нямнога часу. і яго кнігі «Крапіва» «Байкі» ведала ўжо ўся Беларусь.

Пройдуць дзесяцігоддзі, а шматлікія з яго ранніх твораў будуць жыць у народзе і па-ранейшаму выклікаць у людзей смех.

Каму ў Беларусі не вядомы зараз «Плеткары», «Цёткам навука».«Вол і Авадзень», «Дзед і Баба». «Сука ў збане». «Мандат», «Дыпламаваны Баран», «Дэкрэт», «Сава, Асёл ды Сонца», «Жаба ў калясіне», «Махальнік Іваноў» і іншыя творы сатырыка?

Асаблівы поспех выпаў на долю баек. К. Крапіва стварыў у беларускай літаратуры самабытную байку, наватарскі характар якой адзначалі ўжо многія даследчыкі. Чэшскі літаратуразнавец І. Румлер, напрыклад, гаварыў аб яго творах. апублікаваных у пражскім выданні анталогіі «Паэты Беларусі» (1955 г.), што яны выходзяць далёка за межы традыцыйнага разумення байкавага жанра. «Крапіва, — пісаў ён, — адкідае дыдактыку і ўводзіць у байку новыя апавядальныя, драматычныя, сатырычныя і лірычныя элементы».

У К. Крапівы байка стала незвычайна «ўмяшчальнай» формай рэалістычнага адлюстравання жыцця. яго адмоўных бакоў, паасобных чалавечых недахопаў і заган.

Пісаў К. Крапіва так, каб яго добра разумелі шырокія масы чытачоў. У яго байках не сустрэнеш адцягненых алегорый і нуднага маралізавання. Сатырык рысаваў каларытныя сцэны жыцця. ствараў характары. якія выкрываліся ў рэальных абставінах. у дзейнасці. у вострых сутычках супрацьлеглых поглядаў, імкненняў, маральных прынцыпаў.

І бадай што самай прывабнай рысай яго баек з'яўляецца крылатасць. трапнасць. Гэта — творы. якія ўвабралі ў сябе мудрасць і непаўторны гумар народа. У сваю чаргу шматлікія афарызмы аўтара пайшлі ў народ, сталі прыказкамі. Як натуральна. лаканічна. трапна гучаць. напрыклад, такія афарызмы байкапісца: «Аднак жа. як свінню не кліч, яе заўсёды выдасць лыч!», «Бывае іншы раз і з нашым братам, што галаву замяняюць мандатам»; «Другі баран — ні «бэ», ні «мя», а любіць гучнае імя»; «Каб сонца засланіць — вушэй аслiных мала» і шмат іншых.

Творчую дзейнасць К. Крапіва пачаў у сталым узросце. маючы вялікі жыццёвы вопыт. Да таго, як узяцца за пяро, ён добра пазнаў сялянскую працу і працу чорнарабочага на цагельні, настаўнічаў у пачатковай школе. паспрабаваў у час імперыялістычнай вайны акопнае жыццё на румынскім фронце. служыў у Чырвонай Арміі.

У рэдакцыю «Савецкай Беларусі» са сваімі першымі вершамі К. Крапіва прыходзіў апрануты яшчэ ў форму чырвонага камандзіра. Ён многа перажыў. у яго было што сказаць людзям, быў свой пункт погляду на разнастайныя з'явы і падзеі.

Шматграннасць таленту К. Крапівы праявілася яшчэ ў дваццатыя гады. калі ён выступаў пераважна як сатырык і па-майстэрску выкарыстаў усялякія жанры сатырычнага пісьма — ад частушкі і эпіграмы да фантастычнай паэмы — байкі, усе сродкі смеху — ад мяккай іранічнай усмешкі да гнеўнага нічым не стрыманага сарказму.

Пазней. у празаічных і асабліва ў драматычных творах, паўней раскрываюцца і іншыя грані яго таленту, уменне аналітычна адлюстроўваць жыццё. даследваць яго глыбінныя працэсы, ствараць рэалістычныя мастацкія тыпы.

Ва ўсім бляску аналітычнае майстэрства К. Крапівы праявілася ў драматургіі.

К. Крапіва — адзін з буйнейшых савецкіх драматургаў. Яго п'есы набылі шырокую папулярнасць не толькі ў Беларусі, яны ставіліся на сцэне шматлікіх тэатраў Савецкага Саюза. Спектаклі па яго п'есах бачылі і зарубежныя гледачы (Польшча, ГДР і іншыя краіны).

Пяру К. Крапівы належыць дзесяць п'ес. У большасці выпадкаў гэта творы маштабныя, якія закранаюць сур'ёзныя грамадскія праблемы, раскрываюць складаныя жыццёвыя канфлікты, глыбока даследваюць унутраны свет людзей.

Ствараліся драмы і камедыі К. Крапівы на сучасным. востра актуальным матэрыяле, рашалі праблемы. якія асабліва хвалявалі савецкага чалавека. дзякуючы чаму ставаліся выдатнай з'явай духоўнага жыцця свайго часу.

На сучасным матэрыяле паўстала выдатная сатырычная камедыя К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» (1939 г.) — твор вялікага грамадскага гучання, палітычна востры і злабадзённы. па-сапраўднаму вясёлы і дасціпны. Гэта адна з лепшых камедый у савецкай літаратуры. Яе аўтар удастоены Дзяржаўнай прэміі.

У камедыі «Хто смяецца апошнім» бязлітасна выкрываюцца подласць. кар'ерызм, двурушніцтва і баязлівасць. Драматург стварыў яркія сатырычныя вобразы невука і прайдзісвета Гарлахвацкага і кар'ерыста-паклёпніка Зёлкіна, якія сталіся агульнымі імёнамі. незвычайна жывы вобраз добрага, але няўпэўненага. баязлівага інтэлігента Тулягі і шэраг іншых каларытных чалавечых вобразаў.

Іншыя п'есы К. Крапівы таксама прысвечаны важным з'явам і падзеям у жыцці народа. у іх адлюстраваны самабытныя і непаўторныя народныя характары.

У пасляваенныя гады разгарнулася плённая навуковая дзейнасць К. Крапівы. Вось ужо амаль дваццаць гадоў працуе ён у Акадэміі навук БССР. Зараз К. Крапіва з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам акадэміі. Многа зрабіў пісьменнік-акадэмік для развіцця беларускага мовазнаўства, апублікаваў шэраг навуковых прац па праблемах беларускай мовы, прымаў удзел у стварэнні слоўнікаў.

Разнастайная літаратурная, навуковая і грамадская дзейнасць К. Крапівы — прыклад сумленнага, самаадданага служэння народу. У 1956 годзе Кандрату Крапіве прысвоена званне народнага пісьменніка Беларусі. Гэта доказ прызнання народам яго вялікіх заслуг у развіцці беларускай нацыянальнай культуры.

ЯНКА КАЗЕКА

Фота: В. Казлова



Кандрат Крапіва са сваімі ўнукамі Ленай і Колем.



Некаторыя творы пісьменніка К. Крапівы.



Фінал спектакля «Хто смяецца апошнім».

---

•аляксей карпюк•

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

У лагер прыбываем першыя. Ужо віднее. Ля вогнішча пуста. Толькі пад кустом трымаецца за веласіпед і вінавата ўсміхаецца валілскі Вася Курцэвіч, з якім мы некалі ўцякалі за мяжу. На багажніку — тоўстая торба, на Васі — рамяні, вопратка падагнана, быццам Курцэвіч сабраўся ў падарожжа вакол свету.

— Алёшка, я да цябе назусім...

Нямею. У майго сябра вялікая блізарукасць. З-за яе мы і трапілі калісьці польскім пагранічнікам: Васіль пайшоў на разведку, налез на патрулёў. З таго часу блізарукасць развілася яшчэ болей. Цяпер нават у акулярах Вася нібы сляпы. Навошта ў лесе нам інвалід? У Валілах карысці прынясе болей, трэба яго адправіць назад!

— Ты пытаў у каго дазволу? Хто цябе адпусціў сюды?

— Хопіць і там сваіх, не бойся!.. Дарэчы, хлопцы прысылаюць табе графік руху паяздоў, каб болей паражнякоў не пускалі... — задобрывае і падае вялізны аркуш ватмана.

Чорт, такая ж самая папера вісела ў Саколі на сцяне. Не падумаў, што можа быць карысная.

Васіль яшчэ хваліцца гранатай — лімонкай; у ёй замест узрывацеля тырчыць дзеравяны шпень.

— Вінтоўкі не раздабыў, захапіў яе...

— Можаш дзецям аддаць, каб гулялі! Турыст, збірайся дамоў!

195

— Няхай бу-удзе! — заступаюцца хлопцы.

— Малайчына, Вася! Вінтоўку дадзім, іх цяпер у нас да д'ябла!

Поспехі мінулага дня настроілі мяне на дабрадушны лад, не магу пярэчыць. Зрэшты, чаму Васіля і не прыняць? У Валілах і праўда болей, чым трэба!..

Курцэвіч ужо не лічыць патрэбным гаварыць са мной, апавядае сваім валілцам навіны, тыя адвязваюць з багажніка торбу. Ужо пайшлі па руках белыя коржыкі...

Старыя людзі з беластоцкай групы даўно пападалі на мох і пазасыналі. Затое ў моладзі якраз абудзілася другое дыханне. Не хочацца спаць і мне. Не ведаю, чым заняцца. А тут яшчэ хлопцы прыстаюць:

— Камандзір, што нам рабіць?

— Давай работу!

— Спаць лягайце!

— Выспімся яшчэ!

— Мо начнём дабываць тол? — успамінаю.

— У-у-у!

— Не паразрывае нас?

— Пакажы хоць, як гэта робіцца!

Я і сам ведаю толькі прыблізна. У снарадзе — галоўка ўзрывацеля. Яе адкручваюць, са снарада нейкім чынам дастаюць гэты самы тол. Неасцярожны рух, снарад узарвецца. і лепш не думаць, што тады будзе з табой! На галоўцы спецыяльныя дзірачкі для ключа, якім узрывацель адкручваюць. Адкуль у нас можа быць такі ключ? Колькі самаробных піратэхнікаў паразрывала гэтак у навакольных лясах!..

— Я пакажу! — гаворыць Смірноў і накіроўваецца да пірамід.

196

Утвараецца кола насцярожаных партызан. Былы прапаршчык бярэ сталёвую балванку між калень. у дзірку пад вуглом устаўляе канец шомпала. лёгка стукае і... галоўка падаецца! Яшчэ раз б'е па шомпалу, яшчэ! Цяпер узрывацель адкручвае пальцамі, шпурляе яго далёка ў кусты, уздыхае.

— Глядзіце сюды! — паказвае на дзірку ў снарадзе, дзе відаць жоўтую сарцавіну чысценькага толу. — Цяпер яго можна адтуль выкалупаць чым-небудзь вострым!.. — сціпла канчае свой інструктаж Смірноў, выцірае ўспатнелы ад напружання лоб.

— Глу-упства! — зухавата крычаць хлопцы, хапаюць па снараду. пачынаюць іх асядлоўваць.

Ледзь прымушаю іх ісці далей ад лагера, каб не нарабіць бяды.

— А што з маім толам? — крыўдзіцца Люба. — Навошта я дурыла Навасёлава?

Вінавата маўчу.

— Давайце сходзім і ўзарвём поезд! — прапаноўвае Кардаш.

І мне гэта падабаецца.

— Думаеш, так лёгка цяпер яго ўзарвеш?

— Я ведаю. дзе ніхто ноччу не дзяжурыць на пуці!

Па вачах бачу, што Сашка і праўда ведае.

— Валяй з імі сам. — заяўляе Косця. — Я ўжо ног не магу валачы. Пабуду ў лагеры.

Люба і Кардаш — надзейныя. Можна ім даць да кампаніі Яроцкага. Нельга мне ўсюды лезці самому, трэба больш давяраць людзям... Але не магу справіцца са спакусай. Пераконваю сябе, быццам не маю права на небяспечную справу пасылаць адных, збіраюся і я. Траіх вырушаем у паход.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

197

 




### ЛОПНЕШ АД СМЕХУ

Сустрэліся на вуліцы два знаёмыя.

— Скуль бяжыш, дружа? — пытаецца адзін з іх.

— З кіно. Дужа смешную камедыю глядзеў зараз. Абавязкова схадзі лопнуць са смеху можна...

— О, гэта добра! Тады я пашлю сёння ж вечарам у кіно сваю цёшчу.

КАНДРАТ КРАПІВА

## ДЭКРЭТ

**Байка**

— Здароў, Максім!  
Забыўся, брат, на нас зусім.  
Расказвай, што чуваць.  
— Браточак, не магу!  
— Ты мо сюды адпачываць?  
— Ды не, бягу!  
Я жду бяды з усіх бакоў.  
— А што з табою? Можа, не сакрэт?  
— Ды ў цэнтры (чуў мо?) выдалі дэкрэт —  
На мяса здаць усіх быкоў,  
Якім мінула дзесяць год.  
— Пастой... Прысядзь ды вытры пот...  
Дык ты ж чаго падмазаў пяты?  
— А мне ўжо, бачыш, дваццаць пяты,  
Дык страх такі напаў, не ведаю, дзе дзецца.  
— Не разумею я... То ты ж не бык, здаецца,  
І не ўцякаць табе я моцна буду раіць.  
— Яно то так, але ж — гады...  
Каб не нажыць якой бяды.  
Дэкрэты як у нас, часамі, разбіраюць?  
Не разбяруцца, зловяць — чык,  
Тады й даводзь, што ты не бык.

### ЗВЫЧАЙ

У сям'і гэтай звычай гэты  
Йдзе з пакалення ў пакаленне,  
Што кожны мае чысты рукі,  
А толькі чорнае сумленне.

**Мітрафан Калыска**




Крапіваю Міхась не апёкся, а брагаю апарыўся.

*

Міхасю пасля балю вельмі гарачая таўканіца смакуе.

*

Як Хведар едзе на рынак, то кіруе канём, а з рынку булан кіруе Хведарам.

*

Удалася б самагонка, каб мяне ля бочкі не накрылі.

*

Толік, ідучы бацькаўскім следам, трапіў у выцверазілаўку.

ВЕСЛАВА ЛУБКОЎСКАЯ

## ЗЫЧЛІВАСЦЬ

**(Гумарэска)**

— Боршч без квасу? На свята? Таго і ў вайну не было!

Кінулася я да суседкі.

— Любая, пазыч шклянку квасу, бо сама не заквасіла, у прадаўшчыцы грып, апроч таго, усе магазіны ўжо зачынены...

Суседка развяла рукамі.

— Даражэнькая, з-пад зямлі для цябе дастала б, але ў самой няма. Заскочым да суседа.

У суседа таксама не было квасу, але ён вырашыў зрабіць аб'яву.

— У такой справе, — кажа, — ды ў такі дзень усе людзі добрай волі павінны...

Выйшаў ён на панадворак і гукаў, але без поспеху, бо дзверы пераважна былі зачынены. Хтосьці падаў думку, што праз радыё лепш пачуюць, і не мінула паўгадзіны, як быў перапынены канцэрт лёгкай музыкі і з рэпрадуктара панеслася:

«Увага, увага, перадаём спецыяльнае паведамленне. У пані Маліняк няма квасу для святочнага баршчу. Калі хто-небудзь ведае ці сам мае...»

Паведамленне перадалі двойчы, а потым пасыпаліся парады і аб'явы.

Некалькі чалавек прапанавалі стварыць фонд для закупкі квасу за валюту, і тут жа ў фонд паступіла два долары, сорак злотых і адна чэшская крона, зусім новенькая. А хто не даў сродкаў у фонд, праз радыё ці па тэлефоне выказалі мне пачуццё шчырай салідарнасці і віншаванні накшталт такіх:

«Мы — з Малінякамі», «Разам з Малінякамі б'ецца адным рытмам наша чулае сэрца!»

І сапраўды! Я сядзела за сталом, плачучы ад засмучэння, калі выявілася, што квас ёсць. Нейкі дзядок у Кутні заквасіў яго сабе на патрэбы сэрца і зараз прагне падзяліцца са мной у знак шчырай зычлівасці.

У той жа час, не зважаючы на снежную завіруху, у Кутню вылецеў самалёт. З самалёта, які ў Кутні не мог прызямліцца з-за адсутнасці там аэрадрома, выпрыгнуў парашутыст з пластмасавым збаночкам на квас. Тысяча спагадлівых рук падхапіла парашутыста і з напоўненым збаночкам панесла ў аўтамабіль, які, нягледзячы на галалёд, шчасліва завёз яго ў Познань. У Познані ўжо чакаў геліякаптэр. Праз дзве гадзіны пасля аб'явы па радыё прыстойны лётчык перадаў мне прыгожы збаночак (падарунак мясцовага гуртка Лігі Жанчын), поўны найлепшага квасу.

Боршч быў выратаваны. Я — таксама. Я нібыта падрасла і акрыяла ад людской зычлівасці. Свякруха пахваліла вячэру. Свята прайшло як найлепш.

З польскай мовы пераклаў **В. Ляшэвіч**

### ОХ, ЖАНЧЫНЫ...



Клапатлівая.



Палахлівая.



Цярплівая.



Адважная.

### ШТО

— Мама, ты ведаеш гэту вазу, якая пераходзіць у нашай сям'і з пакалення ў пакаленне?

— Так, ну і што ж?

— Дык вось, маё пакаленне яе толькі што ўпусціла.

### СТРАТА

У бар уваходзіць вельмі прыбіты наведвальнік.

Бармэн пытае:

— Нешта здарылася?

— Яшчэ як! Меў я выгады: цэнтральнае ацапленне, вадаправод, добрае харчаванне, радыё, тэлевізар. Займаўся я спортам, карыстаў з багатай бібліятэкі. І цяпер выпіхнулі мяне за дзверы!

— Жудасць! А дзе вы былі?

— У турме.

### СПОСАБ

Цікава, якім чынам Зося выцягае пастаянна ад мужа грошы?

— Вельмі проста, гаворыць яму, што пакідае яго і выязджае да маці, і ён тут жа дае ёй грошы на білет.

### ДАТРЫМАЕ СЛОВА

Бацька да сына:

— Ты запэўніваў мяне, што будзеш вучыцца толькі на «чацвёркі».

— Так, тата. За першае паўгоддзе я з кожнага прадмета маю па «паўчацвёрцы», а за другое паўгоддзе яшчэ будзе па «паўчацвёрцы», вось і датрымаю сваё слова.




Смецце з хаты выносіў, але так, каб ніхто не бачыў.



Без лішніх слоў.

## УСЯЧЫНА



Усё людское нам не чужое.

Кур'ёзы

### СПОСАБ НА ІКАЎКУ

Амерыканец Роберт Маер цвердзіў, што знайшоў дзейсны сродак супроць ікаўкі. Чалавек, на якога напала ікаўка, павінен узяць у кожную руку па запаленай свечцы і ад адной да пятнаццаці мінут уважліва глядзець на напарстак, падвешаны на нітцы над яго галавой.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Данусі Грыка** з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы змяшчаем польскую песню п.з

## WOSKOWA LALECZKA



*Jestem tylko lalką z wosku,*  
*Jedną z wielu lal....*  
*Mam oczy z wosku i z wosku nos*  
*I małe serce z wosku mam.*  
*Nic mi w życiu nie zostało*  
*Jak o szczęściu śnić.*  
*Nikt przecież z wosku nie lubi lal,*  
*Nie będzie kochał mnie już nikt.*

*Lecz w sekrecie powiem wam,*  
*Że gdyby mnie pokochał ktoś,*  
*Wtedy słodkich uczuć żar*  
*Roztopi miękki serca wosk.*

*Bardzo często ta przygoda*  
*W życiu zdarza się.*  
*Niech każdy z was rację przyzna mi,*  
*że serce z wosku mieć jest źle.*

*Lecz w sekrecie powiem wam,*  
*Że mnie już raz pokochał ktoś.*  
*Wtedy słodkich uczuć żar*  
*Roztopił miękki serca wosk.*

*Jestem tylko lalką z wosku,*  
*Śnię o szczęściu znów.*  
*Mam oczy z wosku i z wosku nos,*  
*Lecz serca z wosku nie mam już.* **bis**

 